Мілагучнае, дзіўнае, спеўнае слова



# ВЕРАС



gazeta@veras.f2s.com **Выданне Віцебскай суполкі моладзі "ВЕРАС"** №1(1) люты 2000г.

# ГОСПОДА ОФИЦЕРЫ, ХВАТИТ БЫТЬ РАБАМИ!

**НОВОСТИ ИЗ БЕЛАРУСИ ОТ ХАРТИИ 97**

Уважаемая редакция "Народной воли"!

Пишу вам потому, что не могу больше молчать. Не могу спокойно читать про то, что произошло 17 октября во время акции Марш Свободы.

Вы пишет правду, но эта правда для меня очень больная, так как я все видел глазами демонстрантов, но в кармане у меня лежало удостоверение старшего лейтенанта милиции.

Моей задачей было все фиксировать и запоминать, кроме того, после шествия задерживать наиболее активных участников акции и тех, кого мне прикажут задержать.

Но основная задача была - провоцировать столкновения, выкрикивать оскорбительные лозунги и направлять движение людей туда, куда было надо милиции.

К сожалению, среди тех, кто кидал камни, была и просто отчаявшаяся молодежь, но все их действия были спровоцированы и заранее подготовлены.

Толпу специально направляли к месту столкновения, где заранее были сложены камни, к тому месту, где ее взяли в "коробочку" ОМОН и внутренние войска.

Все наши действия были оговорены на инструктаже в Главном управлении кадров МВД, первым заместителем Л.М.Рябцевым и его замом В.А.Михайловским (так как я сам являюсь старшим инспектором кадров МВД). Было также и "промывание мозгов", мол, те, кто соберутся, это мразь и отребье, которое надо раздавить, так как они мешают продуктивно работать нашему "любимому президенту". Поэтому не надо бояться кого-то ударить или избить, с нами - закон и порядок, поэтому не бойтесь.

Длилась эта обработка 2 часа, после чего были розданы радиостанции и нас "внедрили в толпу". Знаю, что в этот день у всей минской милиции было усиление, что такую же обработку проводили и в ГУВД, и в районных отделах милиции. Поэтому не удивляйтесь, когда на шествие организованно приходят определенного внешнего вида мальчики - это наши "стражи порядка". Не говоряуже о том, что 100 процентов милиции сидят в автобусах по подворотням или со щитами перекрывают весь центр города. Это кроме внутренних войск, КГБ, охраны президента (бывшего), пожарных подразделений и т.д. А когда люди спокойно расходятся, хватают их, избивают, тащат в РОВД. Вот такая у нас "демократия".

Irex/PRO Media



Почему я все это написал? Я знаю, что мне будет за такое письмо. Но я устал служить незаконному президенту, срок полномочий которого истек 20 июля 1999 года. Устал быть участником преступления, когда убиты (к сожалению, шансов на то, что они живы, очень мало) Гончар, Захаренко и Карпенко. А мы все, когда молчим, -участники. Когда в тюрьме депутат по моему округу Климов, когда уважаемый труженик Старовойтов обвиняется в воровстве только за то, что имел смелость всегда оставаться человеком. Когда детей сажают занадпись на заборе, когда лидеры оппозиции, уважаемые во всем мире люди, - сидят на Володарке, на Окрестина, объявляют голодовку или вынуждены скрываться за границей. Когда профессор Ходыко сидит в камере за то, что участвовал в "Чернобыльском шляхе", и только благодаря действиям своих соратников в Беларуси и на Западе отпущен. Когда за одно стихотворение можно узнать, что такое СИЗО КГБ. Когда против сотен демонстрантов (лучших людей моей Родины) состряпаны административные протоколы, а против некоторых еще и уголовные дела, когда А.Лебедько и другим грозит участь В.Гончара. Я не хочу работать в такой милиции, не хочу, чтобы мои дети и внуки смотрели на меня с презрением. Знаю, что наш бывший министр Юрий Захаренко,создавая Союз офицеров, подписал себе смертный приговор. Приходилось с отвращением смотреть, как на лекциях Сивакова отпускались шутки в адрес этого человека, как после Сивакова выступали Удовиков и Жадобин (заместители министра МВД) и говорили про Захаренко, что "туда ему и дорога". Создавалось впечатление, что на дворе не 1999-й, а 1937 год.

Хочу обратиться к белорусскому народу, не прячась за псевдонимом. Друзья, знайте - в милиции есть тысячи порядочных людей, которым надоело быть быдлом и служить Иуде. Только у них, как и у вас, семьи, любимые, дети и какая-никакая, а работа. Я говорил со многими милиционерами. ПОДАВЛЯЮЩАЯ ЧАСТЬ ненавидит режим не меньше вас. Многие из тех, кто в день выступления хлопал, после говорили, "что лучшего министра, чем Захаренко, в Беларуси небыло...".

Я верю, что придет день, и мы все вместе: и милиционеры, и рабочие, и интеллигенция ВЫЙДЕМ НА УЛИЦЫ, И НАС БУДУТ СОТНИ ТЫСЯЧ. РЕЖИМ НЕ ВЕЧЕН!

ГОСПОДА ОФИЦЕРЫ, ХВАТИТ ВРАТЬ САМИМ СЕБЕ И КАЖДЫЙ ДЕНЬ ТОПИТЬ СОВЕСТЬ В ВОДКЕ! КОГДА МИЛИЦИЯ БУДЕТ ВМЕСТЕ СО СВОИМ НАРОДОМ, РЕЖИМ ПОГИБНЕТ! ОПОМНИТЕСЬ И СДЕЛАЙТЕ ТО, О ЧЕМ ВЫ ШЕПЧЕТЕСЬ В КАБИНЕТАХ И У СЕБЯ ДОМА! ХВАТИТ БЫТЬ РАБАМИ! ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**Олег БАТУРИН**, старший инспектор группы обеспечения Главного управления кадров МВД Республики Беларусь, старший лейтенант милиции.

---

Скандаль вакол прызнаньня старэйшага лейтэнанта міліцыі Алега Батурына аб правакацыях міліцыі падчас мінулагодняга Марша Свабоды разгараецца. Брат Алега Батурына Міхаіл распавёў 10 лютага на прэсавай канфэрэнцыі падрабязнасьці нападу на яго невядомых супрацоўнікаў "ворганаў".

Каля 14 гадзінаў у пад'езьдзе дома на Антонаўскай вуліцы Міхаіла спынілі два супрацоўнікі міліцыі. У адказ на ягоную просьбу паказаць пасьведчаньні быў моцны ўдар у грудзі. Пасьля гэтага міліцыянты прыціснулі Міхаіла да сьцяны і пачалі яму пагражаць. Яны спрабавалі прымусіць Міхаіла напісаць заяву аб тым, што ягоны брат, міліцыянт Алег Батурын, псыхічна хворы. Справа ў тым, што заява ад родных аб псыхічнай хваробе можа стаць падставай для пастановы аб прымусовым лячэньні Батурына. Міліцыянты пагражалі збіць Міхаіла, а таксама заявілі яму, што затрымаюць ягоную нявесту Натальлю - яны нават назвалі яе прозьвішча й адрэсу.

Калі міліцыянты павялі Міхаіла на вуліцу, ён ударыў аднаго зь іх па назе і вырваўся.

**Працяг на ст. 2**

## ГОСПОДА ОФИЦЕРЫ, ХВАТИТ БЫТЬ РАБАМИ!
**Працяг**

Забраўшы зь месца працы - зь дзіцячага садка - Натальлю, Міхаіл накіраваўся ў бясьпечнае, зь яго пункту гледжаньня, месца - штаб-кватэру Беларускага народнага фронту.

Пра ўчынак свайго брата Міхаіл даведаўся як і ўсе - з газэты "Народная воля". "Я цалкам падтрымліваю брата і цалкам зь ім згодны" -- заявіў Міхаіл. Аказваецца пасьля Марша Свабоды Алег распавёў пра сваю ролю ў гэтай акцыі старэйшаму брату Міхаілу, які працуе ў спартыўнай школе трэнерам па шахматах, і бацьку. Ніякіх канфліктаў на службе Алег Батурын, па словах брата, ня меў і паступіў цалкам асэнсавана. Міхаіл сказаў, што ведае, дзе знаходзіцца ягоны брат. Ён толькі сказаў адное - "у бясьпечным месцы".Пасьля прэсавай канфэрэнцыі Міхаіл Батурын пад кіраўніцтвам вядомага адваката й праваабаронцы Гары Паганяйла напісаў заяву аб нападзе ў пракуратуру. Паганяйла адвез яго па інстанцыях. А Міхаіл і Натальля ў суправаджэньні супрацоўніка місіі АБСЭ у Менску былі праведзеныя ў бясьпечнае месца, дзе зараз будуць чакаць далейшага разьвіцьця падзеяў.

## НА БРАТА СТАРЭЙШАГА ЛЕЙТЭНАНТА МІЛІЦЫІ АЛЕГА БАТУРЫНА МІХАІЛА ЎДЗЕНЬ 10 ЛЮТАГА ЗЬДЗЕЙСЬНЕНЫ НАПАД.

Двое мужчынаў, якія прадставіліся супрацоўнікамі "ворганаў" пагражалі сям'і Міхаіла распраквай. Яны патрабавалі ад яго напісаць заяву аб тым, што яго брат-міліцыянер, які пакаяўся сёньня на старонках "Народнай волі" у правакацыях супраць дэманстрантаў, псыхічна хворы. Гэтая заява дазволіць выпісаць пастанову аб прымусовым лячэньні Батурына. Ніякіх пасьведчаньняў тыя, хто нпадаў не паказалі.

У 17.00 у памяшканьні Беларускага народнага фронта пачнецца прэсавая канфэрэнцыя, на якую ў прыватнасьці, запрошаныя прадстаўнікі КНГ АБСЭ у Менску. Відэакасэта з інтэрв'ю старэйшага лейтэнанта міліцыі Алега Батурына перададзеная днямі ў КНГ АБСЭ у Менску і амбасады шэрагу дзяржаваў. Пра гэтае прэсаваму цэнтру Хартыі стала вядома 10 лютага.

Па інфармацыі "Інтэрфакса" супрацоўнік МУС Батурын існуе ў рэчаіснасьці. Нядаўна ён узяў бальнічны, таму на службу ня ходзіць.

## Рэзалюцыя па Беларусі, прад'яўленая амбасадарам Злучаных Штатаў Амэрыкі Дэвідам Джонсанам Пастаяннаму Савету АБСЭ у Вене.



Злучаныя Штаты выказваюць удзячнасьць амбасадару Віку за яго падрабязна падрыхтаваную і рэалістычную справаздачу па Беларусі, як, дарэчы, усе папярэднія справаздачы КНГ. Усе яны падцьвярджаюць значнае пагаршэньне сытуацыі ў Беларусі з часу правядзеньня Стамбульскага саміту.

Прыняўшы глыбока недапрацаваны варыянт выбарчага кодэксу 24-га студзеня, Беларускі Нацыянальны сход тым самым цалкам праігнараваў рэкамэндацыі АБСЭ і пагрэбаваў перамоўным працэсам на чале АБСЭ. Навязаўшы анты-дэмакратычны варыянт выбарчага кодэксу, урад Беларусі прадэманстраваў свае зьневажальныя адносіны да АБСЭ па меншай меры тры разы.

Па-першае, урад Беларусі парушыў падпісаны ім 15 ліпеня 1999г. сумеснае пагаджэньне з апазыцыйнымі сіламі і Кансульнатыўна-назіральніцкай групай АБСЭ. У адпаведнасьці з гэтым пагадненьнем, адной з асноўных задачаў перамоўнага працэсу паміж уладай і апазыцыяй зьяўляецца выпрацоўка новага варыянта выбарчага кодэксу. Такім чынам, Нацыянальны сход праігнараваў дыялёг, прапанаваны АБСЭ.

Па-другое, праігнараваўшы і канчаткова сарваўшы правядзеньне круглага стала, Беларусь парушыла абавязальніцтвы, якія ўзяла на сябе з 22-ім параграфам стамбульскай дэкляарцыі, якая заклікала ўлады гэтай краіны да актыўнага дыялёгу з апазыцыяй. Хутка пасьля саміта ў Стамбуле, прадстаўнік ураду па пытаньні правядзеньня круглага стала быў вызвалены ад сваіх паўнамоцтваў. Нягледзячы на гэта, улады так і не прызначылі яго пераемніка.

Па-трэцяе, прыняцьцё выбарчага кодэксу зьяўляецца грубым парушэньнем цэлага комплексу абавязальніцтваў перад АБСЭ у галіне дэмакратызацыі, свабоды СМІ і правоў чалавека.

Наш беларускі калега на мінулым тыдні сцьвярджаў на мінулым тыдні, што апазыцыя проста не захацела адгукнуцца на заклік уладаў сумесна распрацаваць новы кодэкс. Аднак нядаўняя справаздача АБСЭ кажа пра адваротнае, што сам беларускі ўрад ня здолеў дамовіцца з апазыцыяй па дадзеным пытаньні, у адпаведнасьці з пагадненьнем ад 15 ліпеня. Прапанова ўладаў апазыцыі пракаментаваць праект выбарчага кодэксу з цяжкасьцю можна назваць працай над зьместам кодэкса за адным сталом.

Сёньня наш беларускі калега заявіў, што крытычная ацэнка выбарчага кодэксу адносіцца да ягонай ранейшай вэрсіі, у той час як канчатковы варыянт утрымліваў сур'ёзныя дадаткі. Ён таксама дадаў, што ўрад "з асаблівай ўвагай" паставіўся да камэнтараў КНГ. КНГ, у сваю чаргу, заявіла, што ня ўгледзіла якіх-небудзь значных зьменаў у асноўных пунктах дакумэнта.

Такім чынам, палітычны крызіс у Беларусі рэзка абвастрыўся.

За прайшоўшыя тры гады з таго часу, як прэзыдэнт Лукашэнка ініцыяваў канстытуцыйны й палітычны крызіс, яго Нацыянальны сход так і ня здолеў атрымаць міжнародную падтрымку. Акрамя нелегітымнага заканадаўчага воргана ў краіне зьявіўся нелегітымны прэзыдэнт, які застаецца ва ўладзе, нягледзячы на сканчэньне ягоных афіцыйных паўнамоцтваў.

Адзіная магчымасьць з дадзенага становішча зьяўляецца правядзеньне праўдзівых дэмакратычных выбараў, якія былі б прызнаныя ўсімі палітычнымі сіламі й міжнароднай супольнасьцю. Арганізацыя такіх выбараў зьявілася часткай місіі спадара Віка, АБСЭ, рознага кшталту Парлямэнцкіх асамблеяў і ўсёй міжнароднай супольнасьці Злучаныя

Штаты з нецярплівасьцю чакаюць моманта, калі аналягічная мэта будзе і ў афіцыйнай улады Беларусі.

10 лютага 2000 года

## Беларусь: перасьлед іншадумцаў працягваецца

Заява Amnesty International

У 2000 годзе пакуль не адбылося ніякіх зьменаў у рэпрэсіўнай палітыцы Лукашэнкі ў дачыненьні да яго палітычных апанэнтаў. Зараз рэжым зьвярнуў сваю ўвагу на невядомых палітычных актывістаў і маладых апазыцыянэраў, заяўляе сёньня Амністыя.

Лідэр рэгіянальнага адзьдзяленьня Беларускай Сацыял-дэмакратычнай партыі Генадзь Гарусеў быў учора асуджаны на сем сутак арышту за ўдзел у мірнай акцыі пратэсту, што прайшла ў студзені ў г. Барысаве, што прыкладна 60 кілёмэтраў на паўночны-усход ад Менску. 16 студзеня невялікая група дэманстрантаў разгарнула плякаты падчас пікета ў Барысаве, асуджаючы парушэньні правоў чалавека і судовае разьбіральніцтва ў адносінах да былога прэм'ера Міхаіла Чыгіра.

Амністыя занепакоеная фактам арышту 4 удзельнікаў таго пікета, якіх могуць асудзіць да турэмнагат зьняволеньня за выкарыстаньне законнага права на свабоду мірных сходаў.

Некалькі маладых актывістаў таксама пацярпелі ад дзеяньняў уладаў і падвергліся перасьледу па месцы вучобы. У адным з судоў Менска прайшло слуханьне справы 18-гадовай Натальлі Грачухі, якую абвінавацілі ў спаленьні сьцяга падчас мінулагадовай дэмантрацыі ў Менску. У выпадку калі дзяўчыну прызнаюць вінаватай - яе могуць асудзіць да турэмнага тэрміну.
Іншыя маладыя актывісты былі таксама асуджаныя да розных тэрмінаў зьняволеньня за выкарыстоўваньне законнага права на свабоду мірных сходаў. 16-гадовы Андрэй Голубеў, 18-гадовы Антон Лазараў і студэнты Глеб Догель і Герман Сушкевіч апынуліся сярод тых ма ладых людзей, якіх арыштавалі і асудзілі да адміністратыўных тэрмінаў за ўдзел у Маршы Свабоды 17 кастрычніка мнулага году. Улады абвінавацілі актывістаў у злосным хуліганстве, што зьяўляецца звычайным абвінавачаньнем у падобных выпадках. Яны павінны зьявіцца перад судом у канцы лютага.
Amnesty International асуджае запужваньне і перасьлед іншыдумцаў у Менску і паза ім, таксама як і перасьлед маладых актывістаў за мірнае выказваньне іх палітычных поглядаў і выкарыстаньня імі прва на свабоду сходаў.
"Перасьледам апанэнтаў на тэрыторыі ўсёй краіны, беларускі ўрад яшчэ больш адлучаецца ад магчымага ўваходу ў міжнародную супольнасьць ", - папярэджвае аўтарытэтная праваабарончая арганізацыя.

## НІЯКІХ ПЕРАМОВАЎ З АПАЗЫЦЫЯЙ БЕЛАРУСКІЯ ЎЛАДЫ ВЕСЬЦІ НЯ БУДУЦЬ

Пра гэта Аляксандар Лукашэнка заявіў на пседжаньні чыноўнікаў беларускага МЗС 10 лютага.
Лукашэнка сказаў, што ён ня будзе "садится ни за круглый, ни за квадратный, ни за какой другой стол с представителями оппозиции". Ён таксама зазначыў, што нікому са сваіх чыноўнікаў не даручаў ісьці на перамовы з апазыцыяй: "Участвовать в общеполитическом диалоге - да, но не в переговорах".
Такім чынам, Лукашэнка проста перакрэсьліў усе высілкі міжнароднай супольнасьці па наладжваньні дыялёга й пошуку шляхоў выхаду з крызісу. У сувязі з гэтыай заявай нелегітымнага прэзыдэнта таксама руйнуюцца ўсе высілкі кансультатыўна-назіральніцкай групы АБСЭ у Менску, якую ўвесь час запэўніваюць у падрыхтаванасьці пачаць дыялёг з апазыцыяй.

---

Менскія ўлады адмовілі групе афіцэраў у правядзеньні акцыі на Высьпе сьлёз у гадавіну вывада савецкіх войскаў з Афганістана.
У ўсталяваныя законам тэрміны афіцэры запасу - палкоўнік Уладзімір Барадач, падпалкоўнік Мікалай Статкевіч (лідэр Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) і маёр Алесь Станкевіч - падалі ў Менгарвыканкам заяўку на првядзеньне 15 лютага з 12.00 да 15.00 мітынга памяці. Менгарвыканкам, аднак, перанес акцыю на Бангалёр. Арганізатары акцыі, аднак, не адмовіліся ад яе правядзеньня.
Прэсавая служба БСДП НГ зрабіла 10 лютага з гэтай нагоды заяву, у якой гаворыцца, што "улады не задумваючыся, падзялілі вэтэранаў-афганцаў , грамадзянаў Беларусі на дзьве катэгорыі - "добрых" і "дрэнных", адным зь якіх можна правесьці сваё мэрапрыемства каля помніка загінуўшых у Афганістане, а іншых накіроўваюць на месца для выгулу сабакаў. Таму арганізатары мэрапрыемства пісьмова адмовіліся ад мітынгу, заявіўшы пры гэтым, што аддаць даніну загінуўшым у Афгане маладым беларусам на месцы выгуласабакаў--недапушчальна". Арганізатары акцыі заклікалі беларусаў усёроўна прыйсьці 15 лютага на Выспу сьлёз і аддаць даніну тым, хто не вярнуўся з той вайны.

---

Кіраўнік барысаўскай арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады Генадзь Гарусеў падвергнуты 9 лютага 7-сутакаваму арышту за праведзеную акцыю ў падтрымку экс-прэм'ера Міхаіла Чыгіра.
16 лютага Гарусеў сярод іншых удзельнікаў несанкцыянаванага пікета пратэсту быў арыштаваны міліцыяй. Пасьля складаньня пратаколу затрыманых адпусьцілі. Аднак актывісты апазыцыі, не прызнаючы легітымнасьці прызначаных нядзейсным пасьля 20 ліпеня мінулага году прэзыдэнтам уладаў, не зьявіліся па позвах у суд. Учора акаецца, што за гэтую ж
акцыю ў Барысаве могуць яшчэ асудзіць чатырох чалавек.

---

Разгляд крымшнальнае справы супраць бізнэсоўца Анатоля Селявончыка прызначаны ў судзе Сьветлагорскага раёна Гомельскай вобласьці на 21 лютага. Разглядаць яго будзе судзьдзя Надзея Раманава, паведамляе БелаПАН.
Селявончык быў арыштаваны 1 ліпеня 1999 года пасьля таго, як 29 чэрвеня ваенізаваны расейскі атрад "Беркут", які ён спансуе правёў "трэніровачны" захоп вёскі Мікалаеўка. У выніку шмат хто з жыхароў быў зьбіты. У абвінаваўчым прысудзе Селявончыку інкрымінуецца злоснае хуліганства і супраціў супрацоўнікам міліцыі. З моманту арышту і да гэтага часу Селявончык знаходзіцца за кратамі.

---

Суд Першамайскага раёна горада Менску 9 лютага пачаў разгляд іску грамадзянкі Веры Церлюкевіч да вядучага аналітычнай праграмы "Рэзананс" Аляксандра Зімоўскага.
Суд пачаўся з 25 хвіліннай затрымкай. Пры азнаямленьні з удзельнікамі працэсу спадар Зімоўскі адмовіўся назваць услых сваю хатнюю адрэсу - напэўна баяўся фізычнай расправы. Іск Веры Церлюкевіч утрымлівае патрабаваньні выплаціць ёй 3 міліярды недэнамінаваных беларускіх рублёў у якасьці кампэнсацыі за нанесеную ёй маральную шкоду, і прынесьці афіцыйнае прабачэньне ў праграме "Рэзананс".
Судзьдзя Ясіновіч праявіў зайздросную вытрымку, спрабуючы не выганяць з залі экзальтаваных бабулек, што ўвесь час парушалі парадак. У ходзе працэсу Зімоўскі адмовіўся ад таго, што быццам бы ён абразіў у сваёй перадачы Веру Церлюкевіч. Сама ж Церлюкевіч лічыць, што фразамі: "Сотни подготовленных отморозков: примелькавшиеся потрепанные лица политиков новой волны", Зімоўскі абразіў яе годнасьць і гонар.
Пасля допыту бакоў судзьдзя Ясіновіч прызначыў прагляд відэазапісу праграмы "Рэзананс" за 17 кастрычніка 1999 года. У ходзе прагляду твару Веры Максімаўны на відэастужцы знойдзена не было. На гэтай падставе Зімоўскі выказаў думку, што ніякім чынам ня мог пакрыўдзіць чалавека, якога не было ў відэашэрагу. Церлюкевіч выказала думку, што стужка перад праглядам была парэзаная.
Судзьдзя выслухаўшы бакі выказаў меркаваньні аб тым, што трэба правесьці літаратурную экспэртызу на прадмет абражвальнасьці выказваньняў Зімоўскага ў "Рэзанансе", і ці адносяцца гэтыя выказваньні да Церлюкевіч. Абаронца істца, супрацоўнік праваабарончага цэнтру "Вясна 96", Барыс Гюнтэр, у сваю чаргу, заявіў іск аб праглядзе запісу "Рэзанансу", які быў запісаны на ўласным відэмагнітафоне. Таксама на наступных паседжаньнях будуць заслуханыя сьведкі з боку Церлюковіч, якія засьведчаць удзел ці ня ўдзел Церлюковіч у Маршы Свабоды.

---

Несанкцыянаваны пікет прайшоў 9 лютага ля расейскай амбасады ў Менску.
Акцыю праводзілі два актывіста Аб'яднанай Грамадзянскай партыі Пятро Клікушын і Лявон Малахаў. Пікет доўжыўся ня больш за 5 хвілінаў, пасьля чаго да ўдзельнікаў падскочылі міліцыянты, і паспрабавалі правесьці затрыманьне. Аднак пікетоўцы вырваліся, кінулі на зямлю расейскі сьцяг і пачалі яго таптаць. У выніку ўдзельнікаў пікету ўсё ж арыштавалі й адвезьлі ў РАУС Цэнтральнага раёну гораду Менску, дзе на іх былі складзеныя пратаколы.

Намесьнік старшыні Вярхоўнага Савета Анатоль Лябедзька, які тры тыдні таму зьвярнуўся да Аляксандра Лукашэнкі з прапановай даць гарантыі бясьпекі вяртаньня на Беларусь спікера ВС Сямёна Шарэцкага, атрымаў адказ на свой ліст.

Як паведамляе 8 лютага БелаПАН, у адказе, падпісаным сакратаром Савета бясьпекі, утрымліваецца пералік артыкулаў Канстытуцыі РБ, якія гарантуюць свабоднае пражываньне ў краіне кожнаму яе грамадзяніну.

Як лічыць Лябедзька, "сваім адказам улады фактычна прызнаюць знаходжаньне за межамі Беларусі людзей, якія апынуліся там па палітычных прычынах". А сам факт афіцыйнага ліста Шэймана - сьведчаньне таго, што дадзеная праблема існуе. І ня толькі ў адносінах да Шарэцкага, але і іншых беларускіх палітыкаў.

---

У Менскім гарадзкім судзе працягваецца працэс па справе спаленьня чырвона-зялёнага сьцяга РБ жыхаркай Барысава, непаўналетняй Надзеяй Грэчухай, 21-га ліпеня 1999-га году, падчас акцыі "Провады прэзідэнта."

Судзьдзя Валеры Камісараў, які вядзе працэс, невядома навошта зацягвае працэдуру вынясеньня прысуду. Ужо на першым паседжаньні пасудная прызналася ў спаленьні сьцяга, заявіўшы пры гэтым, што зрабіла гэта ў знак пратэсту супраць існуючага рэжыму. Падцьвердзіў факт сьдзяйсьненьня акту і відэазапіс. Абараняе Грэчуху адвакат Марына Вараб'ёва, а пагражае падпальшчыцы па артыкуле 186 са значком 2 -да двух гадоў турмы, або папраўчыя работы, або штраф. Пакуль што вядзецца допыт сьведкаў, але ў хуткім часе мусяць пачацца спрэчкі бакоў адносна прысуду падсуднай. Цікавы выпадак здарыўся 8 лютага падчас допыту сьведкі-міліцыянта. Ён на пытаньне "Які сьцяг паліла Грэчуха?", адказаў: "Расейскі." І хаця ўсе доказы на руках, гэтыя словы значна ўскладнілі ход працэсу, атрымалася, што падсудная нагаворвае на сябе.

---

Вышэйшыя дзяржаўныя чыноўнікі Злучаных Штатаў Амэрыкі падзяляюць інтарэсы беларускай апазыцыі ў барацьбе за ўзнаўленьне дэмакратыі ў нашай краіне. Пра гэта паведаміла 9 лютага дэпутат Вярхоўнага Савета, сябра аргкамітэту Хартыі'97 *Людміла Гразнова*. Сваё першае інтэрв'ю яна дала супрацоўніку прэсавага цэнтру Хартыі Аляксею Шыдлоўскаму.

-- Мая паездка праходзіла ў рамках візыту, які арганізавала Міжнародная Ліга па правах чалавека. Адначасова зь візытам у Штатах знаходзіўся і старшыня Вярхоўнага Савету Сямён Шарэцкі.

-- Якія сустрэчы можна назваць асноўнымі?

-- Асноўнай было сустрэча з Стробам Тэлбатам, дзейсным Дзяржаўным сакратаром. Падкрэсьліваю, менавіта, дзейсным, таму што калі ў ад'езьдзе Мадлен Олбрайт, дык чалавек які яе замяняе зьяўляеца Дзяржаўным сакратаром. Гэта была самая высокая сустрэча паміж беларускай апазіцыі й амерыканскімі кіруючымі коламі за апошнія некалькі гадоў. Таксама былі сутрэчы з Харальдам Ко, адказным за правы чалавека (яго яшчэ називаюць "правай рукой" Мадлен Олбрайт), з сэнатарам Сэмам Гейденсэнам і кангрэсмэнам Стэні Хоерам, якія займаюцца "беларускім пытаньнем" у гэтых структурах. Таксама было шмат іншых сустрэчаў на больш дробным узроўні, у тым ліку мной былі наведаны Дзярждэпартамэнт ЗША, Савет бясьпекі, фонды, якія дапамагалі Беларусі.

-- Якія галоўныя вынікі паездкі?

-- Асноўным вынікам я лічу тое, што амэрыканцы ўспрынялі наш боль, нашыя эмоцыі і падыходы, выкарысталі іх, як стымул для дзейнасьняў стратэгічнага пляну. Гэта ў агульным, а калі ў прыватнасьці, то амэрыканцы атрымалі дадатковыя аргумэнты і зьвесткі ад прадстаўнікоў беларускай апазіцыі, яны атрымалі яснае бачаньне таго, што у нас адбываецца.

Мы ім паказалі станоўчыя бакі беларускага суверэнітэту, і як вынік, яны ўспрынялі наш заклік узмацняць супрацоўніцтва з АБСЭ, яны атрымалі дадатковыя факты і аргумэнты для размоваў з Расеяй і АБСЭ.

Наконт Расеі было сказана некалькі важкіх заўваг. Напрыклад, чым больш Расея будзе паглынаць Беларусь, тым меньш у яе будзе шанцаў трапіць у міжнародную супольнасьць. ЗША цяпер будзе ўважліва глядзець, як "Пуцін-прагматык будзе змагацца з Пуціным-імпэрыялістам".

Амерыканцы запэўнелі нас пасьля, што Беларусь - гэта не закрытая тэма, гэта ня цёмная пляма, што тут жывыя людзі са сваімі інтарэсамі, што значная частка насельніцтва імкнецца да незалежнасьці. І гэтыя інтарэсы неабходна падтрымліваць і дапамагаць рэлізоўваць, а дэмакратычным сілам Беларусі будзе аказаная дапамога.

---

*Стэфан Сэстановіч*, амбасадар па асаблівых даручэньнях і спэцыяльны дарадца Дзяржсакратара па пытаньнях СНД, правёў 9 лютага брыфінг у Вашынгтоне, прысьвечаны праблеме ўзаемаадносінаў ЗША і краінаў Усходняй Эўропы і Эўразіі, Па крыніцах інфармацыйнага агенства ЗША у Менску стала вядома, што на брыфінгу была паднятая тэма беларуска-расейскага саюзу.

*Пытаньне*: : вось маё наступнае пытаньне: Ці ўплывае ўмацаваньне ўзаемаадносінаў паміж Расеяй і Беларусьсю на палітыку Злучаных Штатаў Амэрыкі ў адносінах да Расеі?

*Адказ:* Што тычыцца Расеі й Беларусі.

На наш погляд, так званы саюз паміж Расеяй і Бларусьсю павінен мець адкрыты дэмакратычны характар і добраахвотны падмурак. Рашэньні, што адказваюць гэтым патрабаваньням, спрыяльна адаб'юцца на міжнароднай сытуацыі, а што не адпавядаюць - адаб'юцца дрэнна. Што тычыцца мяне, дык падчас сваіх візытаў у Расею я пераканаўся, што шмат хто лічыць такі саюз невыгадным менавіта для Расеі.

---

Казаць аб прадастаўленьні Беларусі якіх-небудзь крэдытаў з боку Міжнароднага валютнага фонду несвоечасова, заявіў "Інтэрфаксу" прадстаўнік МВФ у Літве і Беларусі Марк Хортан. Тым больш занадта рана, па яго ных словах, называць памеры, тэрміны і ўмовы прадастаўленьня крэдытаў.

Камэнтуючы тое, што ў Асноўных накірунках грашова-крэдытнай палітыкі Беларусі на 2000 год прадугледжаная магчымасьць атрыманьня крэдытаў МВФ на агульную лічбу $155 міл. Да канца года, Хортан зазначыў, што перш за ўсё трэба правесьці "канкрэтныя перамовы зь беларускім урадам на гэты конт". Па яго ных словах, такія перамовы не вяліся "занадта даўно", паведаміў 8 лютага "Інтэрфакс".

Хортан падкрэсьліў таксама, што фонд чакае не асобных станоўчых лібэральных "сыгналаў" у галіне фінансавай палітыкі, а разпрацоўкі і зацьвярджэньня ўрадам Беларусі цэлага "комплекса мэраў, якія сьведчаць пра цьвёрды намер рухацца па шляху эканамічныхператварэньняў". "Пра тое, што гэта за меры, МВФ заяўляў не аднаразова, -- сказаў Хортан. - У прыватнасьці, неабходна паскорыць працэс лібэралізацыі цэнаў, спыніць кампэнсацыю за кошт бюджэта выдаткі на камунальныя паслугі і гэтак далей".

У той жа час, Больш за 2 тысячы прадпрыемстваў Беларусі, што складае 17,8% ад іх агульнае колькасьці, зьяўляюцца стратнымі па выніках працы ў 1999 годзе.

Аб гэтым Інтэрфаксу паведамілі 4 лютага ў Фэдэрацыі прафэсійных саюзаў Беларусі (ФПСБ). Згодна дадзеных ФПСБ, найбольшая колькасьць стратных прадпрыемстваў зафіксавана ў сыстэме сувязі (42,5%), аграпрамысловым комплексе (33,3%), на транспарце (15,8%). Крыніца адзначыла, што ў выніку недахопу інвэстыцыяў тэмпы зносу асноўыфх фондаў больш чым у два разы перавышаюць тэмпы іх пыросту і рэканструяваньня. Пры гэтым знос актыўнай часткі асноўных фондаў шмат якіх прадпрыемстваў ужо дасягнуў 70-80%, што спэцыялісты разглядаюць як крытычную мяжу.

На думку прафэсійных саюзаў, у мінулым годзе ў Беларусі адбываўся таксама спад узроўню прыбыткаў насельніцтва. У прыватнасьці, калі ў 1990 годзе на сярэдні заробак можна было набыць 2,1 наборы тавараў і паслуг, якія ўваходзілі ў мінімальны спажывальны бюджэт (МСБ), дык у 1999 годзе - толькі 1,1 МСБ.

Розьнічныя кошты на алкагалёвыя вырабы ў Беларусі 10 лютага падняліся ў сярэднім на 20%, паведамілі карэспандэнту "Інтэрфакса" у Міністэрстве эканомікі.

Гарэлка "Белая Русь" і "Крышталь люкс" будзе рэалізоўвацца па цане 874 бел.руб., гарэлка "Крышталь 100" - 841 бел.руб., гарэлка "Столичная" - 828 бел.руб. (усе кошты пададзеныя на адну пляшку аб'ёмам 0,5 л зь вінтавой закруткай без 5%-га розьнічнага падатку). Кошты падвышаныя для павелічэньня прыбытку бюджэту, а таксама кампэнсацыі выдаткаў на вытворчасьць прадукцыі.

**Па матэрыялах Хартыі '97**



# Поход в Грозный, или По святым местам

Андрей Матяш, gazeta.ru

Андрей Бабицкий был задержан милиционерами Гантамирова у Старой Сунжи при выходе из Грозного. Причина задержания - отказ репортера поделиться деньгами с войском Бислана Гантамирова.

При личном досмотре у корреспондента радио "Свобода" помимо документов (на которые особого внимания не обратили и которые в тот момент вообще не вызвали никаких дополнительных вопросов) были досмотрены личные вещи. После чего журналисту в тоне, не о ставлявшем надежды на право выбора, было предложено поделиться частью денег, которые у него были обнаружены. Андрей Бабицкий счел подобное предложение неприемлемым для себя (хотя на войне, да еще при пересечении линии фронта, "подмазывать" приходиться всем и всегда).

Началась перепалка - корреспондент, как заявляет наш источник, высказал в крайне живописных выражениях свое мнение о гантамировцах вообще и их отдельных представителях в частности. Те, в свою очередь, сначала отвечали в том же духе про журналистов вообще и особенно тех, "которые работают на бандитов, убивающих невинных людей". Возникшая вслед за спором потасовка едва не закончилась применением оружия гантамировцами. Но трезвая голова все же нашлась, и Бабицкого направили во временный изолятор. При этом, по нашей информации, примерное наказание журналиста по российским законам потребовал сам Гантамиров, который был просто взбешен тем, как вел себя Бабицкий на КПП. К делу подключилась военная прокуратура. Тут-то и возникла версия о нарушении журналистом существующих правил аккредитации.

Началось формальное расследование. Как оно шло и кем велось, пока не известно, но на девятый день содержания Бабицкого в следственном распределителе в Наурском районе Чечни ему было предъявлен ордере на арест по подозрению в участии в незаконных вооруженных формированиях. Произошло это 27 января и именно после этого к делу подключились госдепартамент США и всевозможные журналистские и не только общественные организации.

Как заявил на встрече с помощником и. о. президента Ястржембским директор вещания радио "Свобода" Джеффри Тримбл, Бабицкий уже сделал официальное заявление о том, что не участвовал в боевых действиях. Однако у следственных органов есть претензии к поведению журналиста непосредственно при задержании - при выходе из Грозного на КПП (то есть гантамировцам) он заявил, что был в городе для посещения храма, в котором якобы венчался в 1995 году. Но затем он заявил, что является директором Северо-Кавказского отделения радио "Свобода". Видимо, это произошло тогда, когда у гантамировцев появился интерес к его личному имуществу. Как бы то ни было, сейчас Бабицкий продолжает находиться в камере с еще тремя задержанными под Грозным. Его судьба будет окончательно определена, по-видимому, в ближайшие два-три дня после того, как с ним встретится отправившийся на Кавказ и. о. генпрокурора Владимир Устинов.

Между тем военные, а вместе с ними и Кремль, оказались в крайне щекотливой ситуации - просто так отпустить Бабицкого они не могут, так как это станет личным оскорблением для отряда гантамировцем, задерживать же его далее опасно. На уши уже и так встали многие правозащитные международные организации. С другой стороны, и сам Бабицкий, если его выпустить просто так, молчать не будет - не такой у него характер. Вот над этой проблемой, как говорится, и размышляют сегодня Сергей Ястржембский и половина генпрокуратуры во главе с и. о. генпрокурора.

---

Нечаканая беларуская нітачка знайшлася 8 лютага ў справе журналіста радыё "Свабода" Андрэя Бабіцкага.

Як паведаміў тэлеканал НТВ, у маскоўскі офіс "Свабоды" патэлефанаваў невядомы і паведаміў, што ён мае відэакасэту са зваротам Бабіцкага, які быццамм бы знаходзіцца ў чачэнскім палоне. Пасьля таго, як супрацоўнікі радыё выйшлі на вуліцу, каб набыць касэту за запатрабаваныя 300 даляраў, яны ўбачылі "Мэрсэдэс" 600 мадэлі, у якім сядзеў чалавек у форме расейскага МУС. Нумары на машыне былі беларускія, праўда, заплямленыя брудам, так што разгледзіць лічбы на іх журналісты не пасьпелі.

На відэакасэце быў запісаны зварот Бабіцкага да калегаў, запісаны, па ягоных словах, 6 лютага, праз тры дні пасьля скандальнага "абмена" журналіста на расейскіх ваеннапалонных у Чачні. Андрэй кажа, что ён мае надзею хутка вярнуцца дадому. Ні месца свайго знаходжаньня, ні імёнаў тых, хто яго ўтрымлівае, журналіст не паведамляе.

Сёньня 6 лютага 2000 года. У мяне ўсё адносна нармальна. Адзіная праблема - гэта час, бо абставіны складаюцца так, што, вось, на жаль, адразу дадому я трапіць не магу.

Ну, тут усё нармальна. Ну, наколькі можа быць нармальна ва ўмовах вайны. Людзі, якія побач са мной, спрабуюць неяк дапамагчы мне. Адзіная праблема - што хочацца дадому, хочацца, нарэшце, каб усё гэта скончылася. Вось так вось.

А так - не хвалюйцеся за мяне, я спадзяюся, што хутка буду дома.

Усё.

**Хартыя 97**

---



## РАСЕЯ ГАТОВАЯ ПРЫМЯНІЦЬ ЯДЗЕРНУЮ ЗБРОЮ Ў ВЫПАДКУНАПАДУ НА БЕЛАРУСЬ ІНШАЗЕМНАЙ ДЗЯРЖАВЫ...

...заявіў увечары 5 лютага Аляксандар Лукашэнка. Лукашэнка даў зразумець, што адпаведная дамоўленасьць паміж вышэйшымі кіраўнікамі краінаў, якіх зьвязваюць саюзныя адносіны, была дасягнутая раней, паведамляе "Інтэрфакс".

Месцам для гэтай заявы ён абраў урачыстае паседжаньне з нагоды юбілея вядомага беларускага дзеяча культуры актора Расьціслава Янкоўскага. Частку свайго выступу Прэзыдэнт Беларусі прысьвяціў тэме далейшага ўмацаваньня расейска-беларускага супрацоўніцтва ў галіне абароны ў ваенна-тэхнічнай сфэры.

У прыватнасьці, Прэзыдэнт Беларусі адзначыў, што 10-11 лютага адбудзецца візыт на Беларусь віцэ-прэм'ера ўраду Расеі Ільлі Клябанава, які ва ўрадзе Расеі адказвае за пытаньні ваенна-прамысловага комплексу. Чакаецца, што падчас ягонага візыту ў Беларусь будуць падпісаныя дакумэнты аб стварэньні расейска-беларускай фінансава-прамысловай групы (ФПГ) "Абарончыя сыстэмы".

У сваіх выступах на мінулым тыдні Лукашэнка падкрэсьліваў, што ў межах беларуска-расейскага саюза "ствараецца магутная ваенная групоўка, забясьпечаная самым сучасным узбраеньнем".

**Хартыя 97**

# Навіны з усяе Беларусі

У Берасьці дзьве дабрачынныя арганізацыі, створаныя мясцовымі каталікамі, зь нядаўняга часу маюць праблемы з-за прэтэнзыяў мясцовых уладных структураў. Абласны суд вырашыў зьліквідаваць мясцовы "Дом міласэрнасьці" з-за непраходжаньня ім перарэгістрацыі як грамадзкага аб'яднаньня у першай палове мінулага году, хоць гэтая ініцыятыва была зарэгістраваная як арганізацыя рэлігійная, якім перарэгістрацыю праходзіць не было патрэбы. Аналягічная судовая справа па арганізацыі "Сям'я - сям'і" будзе разгледжаная ў бліжэйшы час.

У Воршы зьявілася новыя перыёдыка. Выданьне моладзевай суполкі Задзіночаньня беларускіх студэнтаў "Залік" распавядае пра пляны і дзейнасьць сваёй арганізацыі, распаўсюджваецца сярод навучэнцаў аршанскіх тэхнікумаў і каледжаў. У студзені выйшаў першы нумар бюлетэня "Зьвяз", выдаўцом якога зьяўляецца аднайменная арганізацыя. Прадстаўнікі мясцовых NGO's спрабуюць засяродзіць увагу на актуальных праблемах сучаснай моладзі.

Каардынацыйны камітэт "Гарадзенская ініцыятыва" пачаў распаўсюджваньне ўласнага бюлетэня, які, паводле словаў кіраўніка камітэту Сямёна Домаша, будзе адлюстроўваць найбольш значныя эпізоды зь дзейнасьці "Гарадзенскай ініцыятывы", друкаваць меркаваньні кваліфікаваных спэцыялістаў у галінах эканомікі і дзяржаўнага будаўніцтва. Плянуецца, выданьне будзе адлюстроўваць падзеі, якія адбываюцца ў рэгіёнах Беларусі, інфармацыю пра дзейнасьць грамадзкіх аб'яднаньняў і рэгіянальных палітычных структураў.

3 сярэдзіны студзеня 2000 года ў Слоніме распачаліся заняткі Народнага Універсітэта, арганізаваныя аб'яднаньнем "Ветразь". Слухачамі Універсітэту маюць магчымасьць стаць усе ахвотныя атрымацьведы па рынкавай эканоміцы, уводзінах у паліталёгію, гісторыі дзяржаўнасьці і культуры Беларусі. Лекцыі будуць праходзіць па выходных днях на працягу трохмесяцаў.

Пасьля працяглага перапынку аднавіў свой выхад гарадзенскі інфармацыйна-культурны бюлетэнь для школьнікаў "ЛІЦЭЙ плюс". Выданьне арыентаванае на навучэнцаў старэйшых клясаў. Сярод аўтараў матарыялаў, зьмешчаных у 14-м нумары, шкаляры з розных школаў горада, студэнты, лідэры грамадзкіх арганізацыяў, навучэнцы "Школы маладога журналіста", а таксама кандыдат гістарычных навук Алесь Смалянчук.

Па выніках мінулага году, тавараабарот Беларусі зь іншымі краінамі склаў 12,6 мільярдаў амэрыканскіх даляраў. Найбольшая актыўнасьць назіралася ў гандлёвых стасунках з краінамі СНД, блізу 63 працэнтаў ад агульнага тавараабароту. Гандлёвае сальда, скарацїўшыся ў два разы, засталося адмоўным на ўзроўні 742,2 мільёнаў даляраў.

У Магілёўскай вобласьці шмат якія гаспадаркі аграпрамысловага комплексу аплочваюць ад нуля да двух працэнтаў ад рэальных аб'ёмаў разьлікаў за газ і электраэнэргію. Увогуле па Беларусі за мінулы год суб'екты гаспадараньня разьлічыліся з канцэрнам "Белэнэрга" па энэрганосьбітах прыблізна на 30%. Зьнешняя пазыка краіны на сёньняшні дзень склала звыш 160 мільёнаў даляраў ЗША за газ і каля 40 мільёнаў за электраэнэргію.

Па падліках сьпецыялістаў, на правядзеньне праграмы па ліквідацыі наступстваў на Чарнобыльскай АЭС па Магілёўшчыне патрэбная сума, якая больш чым удвая перавышае мінулагодні бюджэт вобласьці. Наогул мясцовае кіраўніцтва разьлічвала на сем с паловай трыльёнаў недэнамінаваных рублёў на бягучы год, але рэальных было выдзелена толькі 4,6 трыльёны. Сродкі пойдуць у першую чаргу на забесьпячэньне пацярпелых, якія пражываюць на забруджаных тэрыторыях, жыльлём, на аздараўляльныя праграмы. Будаўніцтва шэрагу аб'ектаў, сярод якіх бальніцы, школы, на 2000 год з-за недахопу сродкаў не плянуецца.

14 лютага ў Менску прайшла традыцыйная акцыя маладзёвай арганізацыі "Малады Фронт" (mfront@visit.to), прысьвечаная Дню Сьвятога Валенціна - Дню ўсіх закаханых. Пры даволі невялікай падрыхтоўцы, арганізатарам "Маршу закаханых" удалось сабраць каля паўтары тысячы моладзі. Калённа маладых людзей з нацыянальнымі сьцягамі, суправаджаючы рух гучнымі сьвістам і гудзеньнем дудак прайшлася ад плошчы Якуба Коласа да Акадэмічнага тэатру, дзе недачакаўшыся гукаўзмацнільнай апаратуры разышлася.

Пінскі гарвыканкам не дае дазволу на выданьне ў горадзе новай незалежнай газэты "Правінцыя". На рашэньне чыноўнікаў не паўплываў нават зварот прадстаўніка АБСЕ ў Беларусі Ханса Георга Віка, які засяродзіў іх увагу на парушэньне падобнымі дзеяньнямі Канстытуцыі РБ і Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах. У сваю чаргу Берасцейскі аблвыканкам прытрымліваецца думкі, што "рашэньне гарвыканкаму не перашкаджае выказваць свае думкі, погляды, даводзіць сапраўдную інфармацыю ў любым зь існуючых сёньня перыядычных выданьняў як у Пінску, так і за яго межамі". Заснавальнікі зьбіраюцца зьвяртацца ў гарадзкі суд.

Віцебскае аддзяленьне "Фонду імя Л.Сапегі" (vbfsap@vitebsk.unibel.by) сумесна з ЦМІ "Контур" (kontur@vitebsk.net), аршанскім моладзевым цэнтрам "Крывіч" (kryvich@orsatbm.lingvo.vitebsk.by), шэрагам іншых недзяржаўных арганізацыяў распачало рэалізацыю новага праэкту "Інфармацыйныя і рэсурсавыя цэнтры для НДА Віцебскай вобласьці". Галоўнай мэтай зьяўляецца пашырэньне інфармацыйнай сеткі, якая дазволіць даносіць незалежную інфармацыю да больш шырокага кола жыхароў рэгіёну. Плянуецца стварэньне абласнога і шасьці рэгіянальных інфармацыйна-рэсурсавых цэнтраў, якія будуць зьбіраць, апрацоўваць і распаўсюджваць інфармацыю па дзейнасьці НДА вобласьці, грамадзкія, сацыяльныя навіны. Распаўсюд будзе ажыцьцяўляцца праз электронную сетку і друкаваныя выданьні, сайт у інтэрнэце.

Гарадоцкай Радай ТБМ падрыхтаваная брашура "Усталяванне савецкай улады і супраціў бальшавікам на Віцебшчыне" з нагоды 80-х угодкаў Веліжскага і Гарадоцкага паўстанняў. Нагадаем, падчас грамадзянскай вайны на тэрыторыі былой Віцебскай губерні ўспыхнуў шэраг сялянскіх збройных выступленьняў супраць бальшавікоў, выкліканых "прадразьвёрсткай" і жорсткай палітыкай новай улады. Навукоўцамі зь Менску, Магілёва, Віцебску, Даўгаўпілсу прадстаўленыя малавядомыя старонкі гісторыі Віцебшчыны, якія замоўчваліся афіцыйнай гістарыяграфіяй і застаюцца невядомымі да гэтага часу. Замовіць брашуру магчыма па тэл. 8-02139-23842 у Леаніда Гаравога.

Даяркі калгаса імя Калініна ў Шаркаўшчынскім раёне аб'явілі страйк з патрабаваньнем зьліквідаваць пазыкі па заработнай плаце. Да забастоўшчыкаў на размову хутка прыехаў старшыня калгасу. На наступны дзень усе атрымалі заробкі.

Віцебскімі кампутаршчыкамі пачалася рэалізацыя праекта "Карыстайся сваім". У яго межах будуць лякалізаваны найбольш папулярныя ў Беларусі праграмныя прадукты. Першым зь іх стаў паштовы кліент The Bat. У сакавіку павінна ўбачыць сьвет бэта-вэрсія 2.хх, а беларускі international-pack выйдзе прыкладна праз тры тыдні пасьля гэтага. The Bat далёка не адзіны прадукт, які плянуецца лякалізаваць. Але якім будзе наступны, у ва многім залежыць ад пажаданьняў карыстальнікаў, іх можна дасылаць па адрасу: vsm_veras@mail.lv. Актыўны ўдзел у рэалізацыі праекта прымае Віцебскае аддзяленьне YMCA і ВСМ "Верас".

**BARC-IDList (barc@user.unibel.by)**

# Аналогии

Александр Стрелков, gazeta.ru



Смотрим бессоновский эпос о Жанне Д'Арк.

Часть первая, "Враги сожгли родную хату". Английские изуверы разоряют деревню, убивают и тут же насилуют неостывшие трупы женщин. Малютка Жанна не забудет этого зрелища никогда.

Часть вторая, "За короля и отечество". Крестьянской девушке было видение: Господь велел ей спасти Францию. Она мчится к любимому монарху, узнает его, спрятавшегося среди придворных, требует и получает войско. А потом не дает никому ни сна, ни отдыха, носится как угорелая с личным штандартом в руке и воодушевляет солдат. Страшная резня. Орлеан спасен. Коронация в Руане. Часть третья, "Святая Жанна". Король предал. Мучительные сомнения. Неправый суд. С верой на костер.

Действительно эпично.

К тому же в такой композиции отчетливо читается житийная схема: детство - деяния - мученическая смерть. Но не такой Бессон самоотверженный радикал, чтобы делать каноническое житие. Бессон - человек деловой и неромантичный. Он знает две важные вещи. Чтобы публика хорошо смотрела фильм, нужно кроме всяких мелочей вроде звезд, бюджета и архетипического сюжета рассказывать историю доступно.

При этом важно не следовать массовым вкусам, а вести их за собой. Так был сделан "Пятый элемент", так же сделана и "Жанна".

Профессиональное мастерство Бессона никуда не делось, но новый фильм прокатывается вяло. В чем-то режиссер ошибся. О художественных достоинствах тут говорить не приходится: нетленкой и не пахнет, хотя есть явные успехи. Зато интересно, какие задачи ставил перед собой Бессон, как он в них запутался и как именно это помешало успеху фильма. Это в данном случае вовсе не экспансия "Звездных войн", как считает сам Бессон.

Что режиссер сделал правильно. Взял на роль Жанны Миллу Йовович - она невероятно хороша, но об этом отдельно. Затем он завлек актеров-монстров, присутствие которых украсит хоть "мыльную оперу", хоть костюмную драму. Это Джон Малкович, Винсен Кассель, Дастин Хоффман, Фей Данауэй. Сделал сражения не хуже, чем в "Храбром сердце": головы летят вполне убедительно, а поле битвы напоминает мясную лавку.

Тут достоинства кончаются и начинаются недостатки. Бессон отлично знает, что героиней нового кинематографа становится женщина. Он сам немало постарался для этого. Поэтому прежде всего ему нужно было решить, что представляет собой неграмотная деревенская девушка, спасшая Францию. Нельзя было и отмахнуться от восьми хорошо известных экранизаций сюжета - от Фальконетти и Дрейера до Риветта (не забудем и Инну Чурикову в "Начале").

Бессон сделал свою Жанну экзальтированной почти до патологии. Почему аристократы и многоопытные вояки пошли за необразованной простушкой? Помните комиссара из "Оптимистической трагедии"? Полюбили ее матросики, вот и здесь то же самое. А кроме того, энергия Жанны-Йовович невероятно заразительна. Она стоит посреди жуткой бойни с флагом в руке и бешено вращает глазами - потрясающая картина. Правила игры требуют, чтобы Жанна уповала на Бога, а не на себя. Бессону же нужна не святая, а народная героиня вроде Тиля Уленшпигеля, Вильгельма Телля или Ивана Сусанина. Поэтому сусанинская преданность государю у Йовович чуть ли не сильнее веры в Бога.

Понимая это противоречие, Бессон сделал третью часть не столько про суд, сколько про рефлексию Жанны. Хоффман играет ее внутренний голос, который должен доказать ей, чего по сюжету, кстати, хочет и инквизиция, что Жанной руководит не Бог, а ее собственная геройская душа. Но Йовович непреклонна. Любительница Вольтера играет такую искреннюю веру, что получилась скорее сумасшедшая, а не историческая героиня. Внутренний конфликт режиссера с главной звездой фильма - не тот товар, который нравится широкой публике.

Премьера "Жанны Д'Арк" состоялась в "Кодак-Киномире" 10 февраля.

P.S. Бессон сделал неожиданный и непреднамеренный подарочек россиянам. По ходу дела замечаешь, что Жанна - вылитый Путин Владимир Владимирович. Пока, говорит Жанна, не побью злодеев англичан, не успокоюсь. Ей со всех сторон говорят: может, переговоры, может, не надо всех-то. Но Жанна ни в какую - или пусть сдают оружие, или всех мочить.

# Стравы з бульбы

*Бульба, прыгатаваная на пары:*
У каструлю з устаўной сеткай уліць 3-4 шклянкі выды, пакласці ачышчаную цэлую ці парэзаную на долькі бульбу, пасаліць ды, шчыльна зачыніўшы каструлю крышкай, паставіць на моцны агонь.
Як толькі вада закіпіць, зменшыць агонь і працягваць варку пры слабым кіпенні прыкладана 25-30 хвілін. Гатовую бульбу падаць да стала з маслам ці смятанай. Бульба, прыгатаваная на пары асабліва добра для прыгатавання бульбянога пюрэ і катлет.

*Дранікі:* Бульбу пачысціць, памыць і нацерці на дробнай цёрцы. У атрыманую масу дадаць соль, муку, усё перамяшаць і жырыць як аладзі. Гатовыя дранікі падаць са смятанай ці малаком.

*Бульба з віном:* Прыгатаваць соус: пакласці ў каструлю з тоўстым дном таплёнае масла, соль, парэзаную пятрушку, цыбулю, муку. Усё падсмажыць, заліць булёнам, віном і праварыць. Соўс варыць да густаты. Асобна сварыць бульбу, парэзаць яе ломцікамі і заліць соусам. (на 6 бульбін-1 цыбуліна, 1 ст.лыжка мукі, 1 шклянка сухога віна, 1 шклянка булёна, соль.)

*Суп палявы:* У мясны булён, які кіпіць, пакласці пшано, а праз 10-15 хвілін парэзаную кубікамі бульбу. Дадаць сала, падсмажанае разам з цыбуляй. Прыгатаваны суп пасыпаць мелка нарэзаным укропам. (на 7 бульбін-1/2 шклянкі пшана, 160г. сала, 2 цыбуліны, ук роп, соль.)

*Салат бульбяны з яблыкамі:* Звараную бульбу і свежыя яблыкі пачысціць, парэзаць ломцікамі, а корань сельдзірэя саломкай. Дадаць парэзаны зялёны салат, пасаліць па густу. Усё перамяшаць і паліць смятанай. (на 3 бульбіны-- 1-2 яблыкі, 70г сельдзерэя, 100г з
ялёнага салата, 4 ст. лыжкі смятаны ці маянэза, соль)

*Суп бульбяны:* Сварыць мясны булён. Пачышчаную бульбу парэзаць кубікамі, пакласці ў кіпячы булён і давясці да кіпення. Парэзаную долькамі моркву, цыбулю і корань пятрушкі падсмажыць на алеі ці жыры, снятым з булёна, пакласці ў булён з бульбай і варыць да гатоўнасці. За 5-10 хвілін да завяршэння варкі пасаліць па густу, дадаць лаўровы ліст, перац. Пры падачы на стол суп пасыпаць мелка парэзанай зелянінай укропа ці пятрушкі.

belnac.webjump.com






"Вожык"

**С**таіць крэсла. У крэсле - голка.
На крэсла сядае расеец. Падскоквае, лаецца матам, ламае крэсла, выкідвае яго праз вакно. Сыходзіць.
На крэсла сядае ўкраінец: "WOW! А што гэта? Голка? Яка гарна голачка!" Кладзе ў кішэнь, сыходзіць.
На кресла сядае беларус. Паўза....... Сядзіць й думае: "А можа так трэба?......"

**Б**ацька з сынам едуць на калёсах.
-Га, сынок, не рабі так, а то будзьма біцца!
-Тпр-р-ру...
-Чаго ты?
-Што ж, калі біцца, дык біцца...

"Вераб'іны тачок"

# Хачу беларускае!

Леў Крынічны, для "Беларускай маладзёжнай"

**А**пошнім часам я сапраўды штосьці зашмат хачу. Надвор'я вясенняга, цёплага, няхай і хлюпотнага, але каб вуліцы- без спрадвечнай брудоты, выкліканай неспадзяваным сыходам снягоў. Мне вельмі. цікава, куды гэтыя снежныя сумёты "афармляюць" за мяжой, і чаму мы не можам зрабіць гэткім жа чынам? І мне не цікава, штодзесьці там - чыста, я хачу, каб было чыста тут і зараз.

Я шматчаго хачу. Мае хаценне павялічваецца, множыцца настойлівым заклікам, цісне загадам, абнародаваным на шматлікіх фанерныхлістах, панатыканых па ўсяму гораду: "Купляй беларускае!". Такі своеасаблівы варыянт штрыхкодавай татуіроўкі, выкананай у стылі ўнісэкс. Дык я ж зусім не супраць. Давайце! Але дзе яно, гэтае беларускае, якое яно?

Дарэчы, гэта яшчэ пытанне: ці хачу я беларускае на самой справе? А калі не - чаму?

Хацець - не шкодна і вельмі танна. Але што мы можам танна (у адпаведнасці з айчыннымі заробкамі) мець з беларускага рынку?

Знаемы, што наглядзеўся тэлерэкламы, вырашыў падтрымаць айчыннага вытворцу ў асобе акцыянернага таварыства "Атлант". Аднайменныя халадзільнікі ў магазінах ёсць, і асаблівага ажыятажу патэнцыяльных пакупнікоў вакол іх не назіраецца. Але вось чаму. Як высветлілася, халадзільнік "Атлант", што ў магазіне, гэта - прыклад, узор, "абразец".

Проста так яго набыць немагчыма. Патрэбна запісацца ў чаргу і чакаць. Знаёмы мой паразважаў, падлічыў і вырашыў, што. пакуль да яго чарга дойдзе, гэтая мадэль ужо састарэе. І скіраваўся ў паўночную сталіцу суседняй дзяржавы. Там са здзіўленнем убачыў, што беларускія "Атланты" без чаргі і напругі можна лёгка набыць у піцерскіх магазінах. Але за даляры. Чаму не тут і не за рублі?! Хто яшчэ захоча "купіць беларускае"?

Дарэчы, пра грошы. Неяк пачуў, што атрымае наша краіна ў хуткім часе грошы на тое, каб перайсш на адзіную з Расіяй грашовую сістэму. Вядома ж, не ў беларускіх рублях будзе вымярацца гэтае; адзінства. А я хачу, каб менавіта ў беларускіх. І каб не трэба было кожны раз пералічваць шматлікія нулі (якія - дэнамінуй не дамінуй, усё адно атрымаеш самі ведаеце што) на даляры. Ды яшчэ каб не дзяліць сваю валюту з якой іншай дзяржавай. Няхай і суседняй.

Піва хачу беларускага. Якаснага, смачнага і таннага. У нас пакуль толькі апошні момант і назіраецца. Вось і прыходзіцца піва айчыннае спажываць "упрыглядку" з якой "Балтыкай". А яна каштуе столькі, што толькі на паглядзець і хопіць грошыкаў у кішэні звычайнага беларускага студэнта.

Цыгарэтаў таксама хачу беларускіх - не "Гродна", якое аддае саломай, і не "Пушчу" з яловых сцяблінак. Чаму ўкраінцы здолелі зрабіць з "Прымы" класныя цыгарэты, а мы з "Мінскам" ну анічога зрабіць не можам? Чаму мы набываем "L&M" украінскай вытворчасці, а не сваёй, беларускай?

Дарэчы, адукацыю я таксама хачу беларускую. Толькі не тую, што зараз мы маем. А сапраўдную. Пра якую нам распавядалі на ўроках гісторыі і беларускай літаратуры, калі узгадвалі старонкі біяграфій вядомых беларускіх дзеячоў. Усе яны - дзеячы - памятаецца, і мовамі валодалі - неперлічыць, і дысцыпліны праходзілі такія, што па сённяшнім часе энцыклапедычнымі лічацца. Чаму ж мы так не можам? Каб вучыцца ў Беларусі, адыпломы і веды мець паважаныя ва ўсім свеце.

Музыку хачу - нашу, родную, добрую і непадобную ані на еўрапопс, ані на расейскую папсарню (што яшчэ горш), ані на псеўдафолкавыя матывы сучасных беларусаў. Яшчэ ў 1995-м мой знаёмец з Екатэрынбургу, забіраючы касету непаўторнага і невядомага тады "Ляпнса", са здзіўленнем паглядзеў на н.аш "Палац": "А ў нас гэта ўжо даўно і шмат хто робіць"... І хачу нармальную якасную тэхніку, каб гэтую музыку слухаць. Сваю тэхніку, беларускую. І хачу беларускі кампутар з беларускамоўным Wordам !!!

Далей, праз коску, што яшчэ я хачу беларускага: прыгожай і таннай вопраткі, а не той рэквізіт фільма пра вайну, што прапануецца нашымі крамамі, беларускай смятаны, "каб лыжка стаяла", і малака, якое малаком пахне, а не чымсьці незразумелым, нармальнага тэлебачання і радыё, хачу БТ уключаць не толькі дзеля таго, каб потым як след Зімоўскага абсцебаць, а сапраўды для душы, і рэкламу я таксама хачу беларускую, але не той наглядны дапаможнік для студэнтаў псіхіятрычных аддзяленняў медінстытутаў, што зараз сабою ўяўляе нашая "сацыяльная рэклама"... А яшчэ я хачу беларускія гімн, герб і сцяг, мову беларускую і тое, штозаразмодназываць беларускім адраджэннем ...

І хачу не толькі хацець, але яшчэ і мець. Але дзе яно гэта ўсё?

А можа, не ўсё так дрэнна?..

Газета "ВЕРАС"
gazeta@veras.f2s.com
Віцебск, 210032, а/с 29-А
Заснавальнік: ВСМ "Верас"
Выдавец: Віцебскі цэнтар моладзевых ініцыятываў "Контур",kontur@vitebsk.net
Друк: Віцебскае аддзяленне Фонду імя Л.Сапегі
Выдадзена пры падтрымцы USIS
Наклад 250 ас.

**Н**арэшце выдалі мы першы нумар нашае газеты! Мы, гэта сябры Віцебскай суполкі моладзі "Верас". Газета будзе выходзіць раз на два тыдні на васьмі старонках. У выданні плануецца змяшчаць агляд палітычных, культурных і спартыўных падзеяў Віцебска і ўсяе Беларусі, гумарыстычныя артыкулы, крыжаванкі.

Мы з задавальненнем прымем пад увагу вашыя водгукі і прапановы па развіццю газеты па адрасах: Віцебск, 210032, а/с 29-А ці gazeta@veras.f2s.com. Вы можаце таксама дасылаць нам свае думкі ці нават цэлыя артыкулы. Калі гэта будзе варта таго, мы абавязкова іх надрукуем у бліжэйшым нумары.

Газета распаўсюджваецца бясплатна. Вы можаце замовіць яе па вышэйпрыведзеных адрасах, пасля чаго будзеце атрымліваць нашае выданне рэгулярна.

Рэдакцыя выказвае вялікую падзяку Цэнтру моладзевых ініцыятываў "Контур" (www.vitebsk.net/kontur) і асабіста Юрасю Корбану за тэхнічную і маральную падтрымку.

*З павагай, укладальнікі:*
*Манцэвіч Яраслаў*
*Парфёнаў Андрэй*